# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 14 (1769) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 8 КРАСАВІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.


## РЫБАЛАЎСКІ ПРЫХОД

Вёска Рыбалы знаходзіцца ў цэнтральнай частцы Беластоцкага ваяводства, на паўдарогі з Беластока ў Бельск-Падляшскі. Мясцовасць распаложана ў маляўнічай ваколіцы, на Беластоцка-Заблудаўскім узвышшы, непадалёк ад ракі Нарва. У Рыбалах пражывае зараз каля 500 чалавек і амаль усе — праваслаўнага веравызнання. У вёсцы — дзве цэрквы (прыхадская і могільнікавая), дзве каплічкі, а таксама школа з навучаннем беларускай мовы, дзве крамы (прадуктовая і прамысловая), медыцынскі пункт, дом культуры, бібліятэка, пошта, супрацьпажарная ахова і пункт скупкі малака. У 70-тыя гады каля вёскі быў пабудаваны сельскагаспадарчы камбінат сумесна з жыллёвым пасёлкам.

Вёска заснавана ў І палавіне XV стагоддзя. У даўнія часы пасяленні ўзнікалі ля берагоў рэк. Над Нарвай, на правым яе беразе, заснаваліся такія вёскі з цэрквамі, як Пухлы, Цялушкі (Свяцілелі), Канюкі (Рыбаловы), Рыбалы (Антонавічы), Войшкі, Кажаны. Некалькі цэркваў было ў горадзе Сураж.

(Працяг на стар. 6)



Царква св. св. Кузьмы і Дзям'яна ў Рыбалах. Фота У. Петрука.

## ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЯ РАДА Ў ГАРАДКУ

18 сакавіка ў Гарадоцкім доме культуры адбыўся ўстаноўчы сход тэрытарыяльнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Гарадоцкай гміне. Член Галоўнай рады БДА Мікалай Адамік яшчэ на Устаноўчым кангрэсе ў Беластоку 10 лютага гаварыў, што будзе магчыма стварыць тэрытарыяльную раду БДА ў Гарадку ўжо неўзабаве. Але перш за ўсё трэба было стварыць Беларускі выбарчы камітэт у Гарадку. Утварыўся ён 1 сакавіка. У міжчасе вярнуўся ў родныя Валілы (тым разам, бадай, з Лацінскай Амерыкі) Лёнік Тарасэвіч і справы беларускай палітыкі ў Гарадку пайшлі куды хутчэй. Лёнік не раз ужо заяўляў: „Рабеце тут палітыку без мяне, у мяне і так спраў на галаве хапае". Але арганізаваннем сходу ў Гарадку ўсё-ткі заняўся.

63 асобы з прысутных на сходзе ўпісаліся ў спісак удзельнікаў БДА. Была выбрана 9-асабовая тэрытарыяльная рада ў наступным складзе: Мікалай Адамік (намеснік старшыні), Уладзімір Грыцук, Уладзімір Лукша, Яўген Пятэльскі, Ніна Супрановіч, Лявон Тарасэвіч (старшыня), Юрка Тарасэвіч, Вячаслаў Чэмель, Раман Шарамета (сакратар).

На сходзе прысутнічалі прадстаўнікі Галоўнай рады БДА з Беластока: Сакрат Яновіч, Яўген Міpановіч, Юрка Раманюк і Ян Максімюк.

Тэмы, якія закранаper ў дыскусіі на сходзе, былі тыповымі для ўсяго беларускага асяроддзя на Беласточчыне. Яны, можна сказаць, стаяць цяпер у парадку дня на сходах беларускіх выбарчых камітэтаў: як вытрываць беларусам у цяперашняй эканамічнай сітуацыі? Як ўратаваць беларускую вёску ад канчатковага заняпаду? Чаму мы, беларусы, такія пасіўныя ў палітычным жыцці? Чаму не хочам быць самастойнымі?

Лёгкіх адказаў на такія пытанні няма. Ілюзіяў наконт таго, што самаўрадавая рэформа вырашыць за нас усе нашы праблемы, не было. Самаўрадавая рэформа стварае шырэйшае поле дзейнасці для людзей з ініцыятыўнасцю. І знімае шмат непатрэбных путаў загадна-адмі-

(Працяг на стар. 2)




Як кожная краіна, так і Беларусь мае свае старажытныя гістарычныя сімвалы. Для беларусаў гэта нацыянальны бела-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. Да гэтых сімвалаў напэўна вернецца Беларуская незалежная дзяржава. Імі карыстаюцца ўжо дэмакратычныя арганізацыі на бацькаўшчыне і на эміграцыі.

**Нацыянальны сцяг.**

Упершыню беларускі бела-чырвона-белы сцяг мы сустракаем на карціне з XVI стагоддзя. Карціна гэта прадстаўляе конніцу Вялікага княства Літоўскага ў бітве пад Оршай у 1514 годзе. Цяпер гэта палатно знаходзіцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі ў Варшаве. Удзельнікамі гэтай бітвы былі беларускія і маскоўскія войскі. Беларускі бела-чырвона-белы сцяг быў таксама паказаны на гравюрах, якія знаходзяцца ў хроніцы Марціна Бельскага. Бельскі таксама ўпершыню апісаў нацыянальныя сімвалы на беларускіх землях. Пасля Люблінскай уніі 1569 г. улады Польскай дзяржавы хацелі стварыць адзін сцяг для ўсёй Рэчыпаспалітай. Кароль Зігізмунд III Ваза ў 1605 г. пачаў карыстацца чырвона-бела-чырвоным сцягам з арлом і пагоняй. У II палове XVI ст. паявіўся чатырохпольны бела-чырвона-бела-чырвоны сцяг. Меў ён адлюстроўваць шматнацыянальную федэрацыю Рэчыпаспалітай.

З развіццём нацыянальнай свядомасці кожны член федэрацыі хацеў стаць незалежным. Тады, нягледзячы на ўніфікацыйную палітыку польскіх дзяржаўных улад, бела-чырвона-белы сцяг быў найбольш папулярным у Вялікім княстве Літоўскім. Нават татары, якія ў XVI—XVII ст. жылі ў межах Беларусі, карысталіся гэтым сцягам. Да яго дадавалі сваю сімволіку — паўкруглы месяц і зоры.

Варта дадаць, што да XIX ст. нацыянальныя колеры і беларуская сімволіка былі прыняты ў Праваслаўнай царкве на беларускіх і ўкраінскіх землях. Бела-чырвона-белыя паясы, якія насіла царкоўная іерархія, сімвалізавалі знак патрыяршай улады і хрысціянскую місію праваслаўнага духавенства. Белы колер — абазначаў душу верніка, а чырвоны — сімвал агню, праўды божай у гэтай душы.

Беларуская сімволіка не загінула ў XIX ст. Ёю карыстаўся, між іншым, Кастусь Каліноўскі. Гербам Пагоня і бела-чырвона-белым сцягам карысталіся таксама дэмакратычныя студэнцкія арганізацыі ў Пецярбургу і

(Працяг на стар. 7)

## НА МЯЖЫ

— 2 —

Вернемся да першых гадоў існавання БССР. Беларусь, як вядома, мела моцна адсталую сельскую гаспадарку. Сусветная вайна, рэвалюцыя, польска-савецкая вайна стапталі і знішчылі Беларусь дашчэнту. Здавалася б, што спатрэбяцца дзесяткі гадоў для таго, каб сяк-так адрадзіць беларускую вёску. Дадаткова паглыбляла нядолю беларускай вёскі цераспалосіца. Многія сяляне мелі сваю гаспадарку не толькі ў дзесятках, але і ў сотнях палеткаў, палетачкаў, загонаў і загончыкаў. Зразумела, што пры захаванні цераспалосіцы нельга было марыць аб адраджэнні сельскай гаспадаркі. І тут наступіў свайго роду цуд. Міністэрствам сельскай гаспадаркі пачаў кіраваць Прышчэпаў. Ён вельмі эфектна правёў так зв. хутарызацыю. Сяляне атрымлівалі зямлю ў адным месцы і высяляліся з пералюдненых цесных вёсак на хутары.

Я добра ведаю, якім вялікім благаславенствам была хутарызацыя. Бо ў маёй вёсцы, якая знаходзілася ў межах Польшчы, была ў 1938 годзе праведзена ліквідацыя цераспалосіцы, што на працягу кароткага часу радыкальна палепшыла сялянскае жыццё.

Вяртаючыся да савецкай рэчаіснасці, варта падкрэсліць, што рэформа Прышчэпава стварыла спрыяльны грунт для прагрэсу. Праявы новага і лепшага ў вёсцы выклікалі шчырае захапленне публіцыстаў і пісьменнікаў. Вядомы празаік Міхась Зарэцкі напісаў кнігу рэпартажаў пад вымоўным загалоўкам „Падарожжа на новую

# Калектывізацыя і пісьменнікі

зямлю“. Пісьменнік пабачыў як бы рэалізацыю ў БССР той мары, з якой паміраў герой коласаўскай паэмы Міхал. Праўда, вульгарызатарскія крытыкі ў сталінскія часы ў запаветных словах Міхала аб уласнай гаспадарцы пабачылі кліканне ў калгасы, але гэта ўжо зусім іншая трагікамічная справа. Зрэшты, і сам М. Зарэцкі, калі сталінізм рушыў у атаку, для ратавання сваёй галавы напіша кнігу рэпартажаў „Вясна 1930“, у якой славіць новы калгасны лад. Гэтым, аднак, ён не выратаваў сваю галаву.

Вернемся крыху назад. У палове дваццатых гадоў ствараліся ў БССР падставы да ліквідацыі адвечнай бяды і адсталасці беларускай вёскі. Поўнасцю, аднак, прышчэпаўская візія шчаслівай беларускай вёскі не збылася. Надыйшоў злавесны 1930 год. Прышчэпаў быў аб'яўлены рэстаўратарам капіталізму, бацькам кулацкай Беларусі, ворагам народа. Гінуў не толькі міністр, гінула надзея на сялянскае лепшае. Наступіла калектывізацыя, праведзеная самым жорсткім бесчалавечным спосабам. Пісьменнікі стварылі першую шарэнгу апалагетаў калгаснага ладу. Нават рацыяналіст Колас, які, як ніхто іншы, ведаў рэальныя патрэбы беларускай вёскі і які мары беларускага селяніна і выбар ім гаспадарчага шляху дасканала прадставіў у „Новай зямлі“, напісаў ганебную аповесць „Адшчапенец“, у якой даказвае, што беларускі селянін дабравольна пераканаўся ў вышэйшасці калгаснай сістэмы і выбраў яе як адзіна правільную. Была гэта вялікая мана. Ніякага выбару і ніякай дабравольнасці ў беларускага селяніна не было. Самымі дзікімі сродкамі, прымусам і тэрорам заганялі беларускага селяніна ў калгасы. І селянін змірыўся. Змірыўся і пайшоў. Пайшлі беднякі, серадзякі і так званыя кулакі. Але вось пачалася славутая ліквідацыя кулацтва як сацыяльнага класа. Якія ж былі кулакі ў Беларусі? Адзін выдатны сучасны беларускі пісьменнік апавядаў, што ў іх вёску прыйшоў план па раскулачванню. Доўга думаў мясцовы актыў, каго раскулачыць, калі было вядома, што ўсе гаспадары маюць па адной карове. Думалі доўга і знайшлі геніяльнае вырашэнне: залічылі ў кулакі тых сялян, у якіх каровы прывялі цялят. Цяляты згубілі людзей!

Такія факты выклікаюць абурэнне сёння. Тады, у трыццатыя гады, пісьменнікі спявалі гімны новаму ладу. Вядомы і, здавалася б, разумны празаік Кузьма Чорны, пасядзеўшы ў сталінскіх засценках, напіша аповесць „Лявон Бушмар“, у якой праўдзе натуралістычную паралель паміж заможным хутаранінам Лявонам і дзікім драпежным зверам, якому не можа быць месца пад сталінскім Сонцам. Такім чынам пісьменнікі давалі санкцыю на біялагічную расправу над „кулацкай“ праслойкай у Беларусі. І пайшлі тысячы, тысячы працавітых, адданых душою і целам зямлі верных сыноў сялянскай Беларусі ў далёкую завейную краіну, з якой ужо не было павароту.

**Алесь Барскі**

# ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЯ РАДА Ў ГАРАДКУ

(Працяг са стар. 1)

ністрацыйнай сістэмы. Яна дае людзям свабоду дзейнасці ў гмінах, але адначасова адбірае надзею на дапамогу зверху, калі ўнізе нешта не паладзіцца. Шмат хто баіцца такой самастойнасці. 45 гадоў „апякунчай“ камуністычнай сістэмы зрабілі сваё. Цяперашнюю сітуацыю Сакрат Яновіч супастаўляе па аналогіі з адным з метадаў навучання плавання, калі немаўля кідаюць на глыбокую ваду і пакідаюць самому сабе.

Шмат часу заняло Сакрату Яновічу тлумачэнне прынцыпаў і істоты дзейнасці Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Людзі ніяк яшчэ не ў змозе вызваліцца ад партыйнай мадэлі, якую 45 гадоў прапанавалі Польшчы камуністы, значыць, партыі з апаратам, сакратарамі, інструктарамі, членскімі білетамі, строга рэгламентаванай партыйнай іерархіяй. Партыі, якая дзейнічае па прынцыпу: прыехалі, паагітавалі, паехалі і зрабілі па-свойму, адзначыўшы ў паперынах, што народ даў падтрымку. БДА ў сваёй істоце прапануе супольнасць людзей, занятых супольнай справай. Ты з'яўляешся членам БДА, калі выконваеш канкрэтную справу, прапанаваную праграмай. Калі табе патрэбны членскі білет, то чаму ж не?, можна абсправіць і гэта, але відавочнай карысці ад гэтага для Аб'яднання не будзе. Пра партыю павінны сведчыць вынікі яе працы, а не колькасць выдадзеных членскіх білетаў.

Лёнік Тарасэвіч круціў носам, калі людзі прапанавалі паставіць яго старшынёю Гарадоцкай рады БДА. Баюся я, адбіваўся Лёнік, што людзі сюды прыйшлі, пасядзелі, пагаманілі, выбралі Раду і параз'язджаюцца дахаты з перакананнем, што сваю справу яны ўжо зрабілі. Цяпер дзейнічайце вы, партыя, гэта значыць, Рада. Людзі запэўнівалі яго, што так не будзе, што будуць працаваць. Хай Лёнік не турбуецца, яны не дапусцяць, каб палітыка заглушыла ў ім мастака. Здаецца, Лёнік не надта быў захоплены такім паваротам справы. Але ўсё ж такі згадзіўся стаць старшынёю. Часова.

І вось, на сённяшні дзень, у беларускай палітыцы сітуацыя наступная: старшыня Галоўнай рады БДА — літаратар, каардынатар Краёвай управы БДА — філолаг, старшыня Гарадоцкай рады — мастак... І што зробіш? Адным і тым жа людзям даводзіцца і сеяць, і жаць, і на дудцы іграць. Такі час.

**Ян Максімюк**

## ПОГЛЯДЫ

# Wyznanie

Na wstępie chciałbym przeprosić, że nie piszę w ojczystym języku, ale to mój (i chyba nie tylko) największy problem.

Ja, jak i wielu moich znajomych i nieznajomych, czujemy się niepotrzebni, niechciani, zapomniani. Tacy ni to pies, ni wydra. A to między innymi dlatego, że jedyna białoruska gazeta „Niwa” pisana jest po białorusku (bo jakże by inaczej). Niby to jest bardzo fajnie, ale ilu Białorusinów zna naprawdę język białoruski? Tylko wybrańcy. Ci z Hajnówki i Bielska Podlaskiego. A cała reszta? Można próbować, posiłkując się językiem rosyjskim (bo do tego nie żałowano nauczycieli i godzin lekcyjnych). Ale to daremny trud. Bo zanim się rozszyfruje zdanie to zapomni się sens poprzedniego. Jaki wstyd, ale taka jest prawda i czy tylko ja mam się wstydzić?

Urodziłem się i mieszkam we wsi koło Białegostoku i mniemam, iż takich wsi jest multum. Za moich szkolnych lat, kiedy chodziłem do podstawówki, nie wiem, czy znalazłby się chociaż jeden mieszkaniec mojej wsi, który mówiłby poprawnie po polsku. Mieszkają tu prawosławni i katolicy. Wszyscy bez wyjątku posługiwali się gwarą białoruską (mówiło się, że rozmawiają po chłopsku). No i zaczęło się. To takie trochę trudne do uchwycenia, ale miałem młodszą siostrę. Podczas kiedy rodzice, starszy brat i ja mówiliśmy w domu gwarą, siostra dostawała po buzi, że nie rozmawia po polsku, bo to nie wypada dziewczynie tak brzydko mówić — po chłopsku. W szkole znalazła się energiczna kierowniczka-polonistka, która za rozmowy gwarą na przerwach stawiała do kąta. Takie konwersacje uważała za niemoralne i niepatriotyczne. Wszystkim przecież wiadomo, że w Polsce mieszkają tylko Polacy, a ilu ich jest jeszcze poza Polską, że ho-ho! Za to takie odchyłki językowo-religijne, to relikt rusyfikacyjnej działalności rosyjskich carów (należy to jak najszybciej zatrzeć i wymazać, i zjednoczyć się z wielką macierzą).

Podstawówka to takie małe piwo. Jednym uchem się wpuszczało, drugim wypuszczało. Najwyżej bolały opuchnięte łapy od bicia piórnikiem. Najważniejsze, że było się wśród swoich.

Szkoła średnia to już wyższa szkoła jazdy. Ileż to się naprzykładało ziemniaków do spuchniętych i podbitych oczu, zanim się nauczyłem śmiać z kawałów o tych głupich kacapach. Nawet nauczyłem się wybiegać z internatu z nóżką od krzesła na hasło „bij ruska”. Żeby coś powiedzieć to musiałem najpierw w myśli przełożyć sobie z naszego na polski. Bowiem gdybym strzelił gafę i trzepnął coś gwarą to było by to gorszym nietaktem niż puszczenie bąka. A lata późniejsze — praca, szukanie żony. Wszystko pięknie póki nie dojdzie do problemu, gdzie ma być brany ślub i gdzie będą chrzczone dzieci. Ile rozczarowań i tragedii. Cóż, przecież Polacy to najbardziej tolerancyjny naród.

Teraz czasy się zmieniają. Jestem starszy, niby dojrzalszy, mam małe dziecko. I co z tego? Co ja mu przekażę, tę swoją wstrętną maskę niby prawosławnego Polaka? Co ja je mogę nauczyć? Przecież ja tylko kląć po swojemu potrafię. A tego dziecka nie będę chyba uczył. Żeby coś nauczyć, trzeba samemu coś umieć. A te nauki gdzie mam pobierać? W cerkwi? Tam jak nie po starosłowiańsku, to po rosyjsku. W radiu tylko wesołe przyśpiewki i ciągle te same, aż do znudzenia. Jakby Białorusini zajmowali się w przerwie między orką a podorywką wyłącznie przyśpiewkami. Prawda, jak nam wesoło? Teraz to nawet swoją audycję będziemy mieli co dzień po 13-tej (Boże, co za pora, kto w tym czasie będzie słuchał?). No a co z historią? Przecież bez niej nie ma narodu. W jakiej księgarni czy bibliotece szukać książek? Mamy teraz swoją partię. Jest wśród nas, Białorusinów, niemało ludzi światłych, uczonych. Za waszym pośrednictwem chciałbym do nich zaapelować, żeby wyszli z ukrycia. Niech nie będą skąpcami i podzielą się swoją wiedzą z tymi, którzy nie mieli takiej szansy. Można by i ułożyć jakiś choćby prymitywny elementarz. Ludzie to kupią i zwróci się z zyskiem. Niech chociaż nasze dzieci odzyskają to, co żeśmy utracili — godność i człowieczeństwo. Niech przestaną być obywatelami którejś tam kategorii ,a zostaną zwyczajnie ludźmi. Zaś ludność pochodzenia białoruskiego niech nie będzie ograniczana do gmin Białowieży, Bielska i Gródka.

(Працяг на стар. 7)



# ВЭРА РЫЧ У БЕЛАСТОКУ



21 сакавіка ў клубе ГП БГКТ адбылося наладжанае літаратурнай групай „Белавежа“ спатканне з англійскай паэтэсай, перакладчыцай і журналісткай Вэрай Рыч. Пра зацікаўленасць Вэры Рыч беларускай літаратурай і культурай чытач „Нівы“ мог даведацца летась („Ніва“ № 35) з інтэрв'ю, праведзенага Я. Мірановічам. Вэра Рыч перакладае беларускую паэзію, яе пераклады выйшлі ў дзвюх кнігах, выдадзеных у Англіі: „Like Water, Like Fire“ („Як вада, як агонь“, анталогія беларускай паэзіі) і „Images Swarm Free“ (прыблізна: „Думак прывольных рой“, пераклады з М. Багдановіча, А. Гаруна і З. Бядулі, выданне двухмоўнае: пераклады і арыгіналы).

Анталогія „Як вада, як агонь“ выйшла ў 1972 годзе пад патранатам і за грошы ЮНЭСКА. Выданне гэтае мела надзвычай цікавую гісторыю, пра якую В. Рыч каларытна расказвала прысутным на спатканні. Спісак аўтараў і твораў для перакладу В. Рыч атрымала з ЮНЭСКА. Паколькі і СССР, і БССР — гэта члены ЮНЭСКА, то, як належала спадзявацца, у спіску гэтым не аказаліся эміграцыйныя паэты, ні таксама такія паэты, як, напрыклад, Алесь Гарун. Пані Вэры ўдалося ўсяго толькі дабіцца выключэння некаторых аўтараў і твораў, якія на спатканні ў Беластоку яна акрэсліла назвай „versified propaganda“ („вершаваная прапаганда“). В. Рыч зрабіла пераклады, напісала ўводзіны да анталогіі і дала патрэбныя каментарыі. Сігнальныя экземпляры кніжкі паявіліся на кніжнай выстаўцы ЮНЭСКА ў Маскве. І тады пачалося. Па-першае: на вокладцы была Пагоня. Па-другое: не ўсе каментарыі пані Вэры спадабаліся цэнзарам з Масквы. Масква дамагалася ад В. Рыч прызнання, што яна парушыла выдавецкі дагавор і зрабіла анталогію не так, як было дамоўлена.

— Я не магла гэтага зрабіць, бо трэба было б вярнуць ганарар, — прызналася пані Рыч. — А на той час я ўвесь ганарар ужо распусціла.

Тузаніна з анталогіяй трывала бадай ці не год, пакуль у Маскве не знудзіліся ўсёй гэтай справай і пайшлі на ўступкі. Каментарыі і ўводзіны хай застануцца, але супервокладку трэба змяніць. Пагоню знялі, на сінім фоне засталіся толькі загаловак і прозвішча перакладчыцы. З чарганнем колераў: белы-чырвоны-белы!

— Усё гэта ўжо даўно ў мінулым, і цяпер можна пасмяяцца, — гаворыць В. Рыч. — Але тады мне было не да смеху. Тым больш, што аднойчы падвечар на мяне напала група ірландскіх баевікоў і збіла да непрытомнасці. Я больш месяца праляжала ў шпіталі. Усё гэта, пэўна, выпадковасць, але ў нас у Англіі ўсе ведаюць, што некаторыя ірландскія групоўкі выконваюць спецыяльныя даручэнні ў замен за зброю: аўтаматы, пісталеты, гранаты і ўсё такое. І вось табе на, Масква на мяне націскае, а тут яшчэ нейкія ірландскія тэрарысты.

Цікава, што Мінск у гэтай справе захаваў поўнае маўчанне.

— Я не атрымала ніводнага лісту з Мінска наконт таго, што там думаюць пра анталогію. Як быццам гэта ўвогуле не датычыла Беларусі. Недзе два гады пасля выхаду анталогіі мне прыслалі ліст з бібліятэкі АН БССР. У лісце гаварылася прыблізна так: „Мы чулі, што ў Англіі выйшла анталогія беларускай паэзіі ў перакладзе на англійскую мову. Ці вы маглі б прыслаць нам адзін экземпляр, бо мы хочам пабачыць, што гэта такое?“

Ну, вось так.

З перакладамі Багдановіча, Гаруна і Бядулі ўскладненняў не было. Кніжку выдала Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі. Тут ніякіх уступных (ні наступных) варункаў не ставілі.

В. Рыч расказала таксама пра сваю журналісцкую працу. Беларускае пытанне і тут ускладніла яе лёс. Яна працавала ў славутым папулярна-навуковым часопісе „Nature“. Была прысутная як журналіст на міжнароднай канферэнцыі ў Вене, калі Масква прадставіла вынікі чарнобыльскай аварыі.

— Саветы там не хлусілі, выявілі праўду, — сказала В. Рыч. — Але толькі каля 5 працэнтаў цэлае праўды. Яны сказалі, як выглядае сітуацыя ў 30-кіламетравай зоне вакол рэактара. Пра Беларусь там не было аніякай гутаркі.

І вось за артыкулы пра наступствы чарнобыльскай трагедыі на Беларусі рэдактар „Nature“ звольніў Вэру Рыч з працы.

— Сам ён прыхільнік ядзернай энергіі, — казала В. Рыч. — І прытым ён захоплены Гарбачовым і „гласностью“. Яму патрэбны былі аднадумцы ў рэдакцыі. Я заставалася без працы прыблізна 40 хвілін: гэтулькі часу я патрабавала, каб перайсці пехатою з „Nature“ ў рэдакцыю „New Scientist“, у якой працую цяпер. Тут, на шчасце, „гласность“ разумеюць крыху інакш, чым у „Nature“.

Вэра Рыч адказвала на шматлікія пытанні, большасць якіх датычылася вобразу Беларусі ў свядомасці людзей Захаду і ўспрымання заходнімі сродкамі інфармацыі тых перамен, якія наступілі і наступаюць у савецкім блоку. Я думаю, што ўсе прысутныя на спатканні былі, так як і я асабіста, захоплены знакамітай арыентацыяй пані Вэры ў падрабязнасцях і тонкасцях палітыкі ў цэнтральнай ды ўсходняй Еўропе і яе жывой, арыгінальнай і часта нечаканай для нас інтэрпрэтацыяй.

22 сакавіка Вэра Рыч наведала рэдакцыю „Нівы“. Была яшчэ адна нагода пагутарыць-параразважаць з няўвызлым чалавекам, да таго — сябрам беларускай культуры і Беларусі.

**Ян Максімюк**

Фота Барбары Кучынскай



*Вэра Рыч на спатканні ў ГП БГКТ. Абапал: Юрка Ляшчынскі і Ян Максімюк.*




**РОДНАЯ МОВА**

*Акраверш*)*

Роднай мовы чароўныя гукі,
О як любы вы нам ад прадвесьня!
Дзіцянём яшчэ цягнем к вам рукі,
Нібы ловячы матчыну песьню.
А як толькі ўбяромся мы ў сілу, —
Яркай зоркай вы нам да магілы.
Мілагучных, ад шчырага сэрца,
Одаў мала яшчэ напісана
Вам, каб можна было імі грэцца,
Аздабляючы вечар і ранак.

**НАША МОВА**

*Акраверш*)*

Наша мова — бярозавік весьні,
Аксаміт жаўрукавые песьні,
Шум гаеў, пушчы грознае голас,
Акавітай успоены колас,
Матак нашых пяшчоты адвеку,
Отмуць-вір у вазёрах і рэках,
Васілёк сінявокі ў збожжы,
Агняцьвет нашай сілы, дар Божы.

**РАДЗІМЕ**

Даўно ня бачыўся з табою,
Ня знаю, як ты там жывеш.
Ад цяжкіх дум няма спакою,
Здаецца — ты мяне завеш.
Хачу я зноў з табой спаткацца
І ўжо не разлучацца боль,
Ды прыкра мне чужым скарацца,
І я цярплю пякельны боль.
Бо над табой туман кашлаты
Вісіць, нібы Дамоклаў меч...
А я ж ня злодзей, не пракляты,
Каб галаву зьняць з плеч.
І, ад цябе цяпер далёка,
Я чую твой трывожны звон...
Братам і сёстрам сінявокім,
Табе я нізкі шлю паклон.

**Янка Золак, ЗША**
*(Ганарар на музей)*

*) Акраверш (ад грэч. ákros — крайні і лац. versus — верш) — разлічаны на зрокавае ўспрыманне верш, у якім пачатковыя літары вершаваных радкоў, прачытаныя зверху ўніз, утвараюць якое-небудзь слова (напрыклад, загаловак).

## „БЕЛАВЕЖАЦ“ ВА ЎЛАДАХ

У надзвычай складанай эканамічнай сітуацыі краіны і ў звязанай з ёю атмасферы палітычна-ідэйнага расслаівання польскага літаратурнага асяроддзя, у Варшаве 17 сакавіка г.г. прайшоў XXV з'езд Саюза польскіх пісьменнікаў, прысвечаны выпрацаванню праграмы дзейнасці З'ехаўшыеся з васемнаццаці ваяводскіх аддзелаў, дэлегаты выбралі новую кіруючую ўладу. Старшынёю Саюза выбралі вядомага крытыка Пятра Куншэвіча. У 21-асабовае Галоўнае праўленне Саюза польскіх пісьменнікаў увайшоў, у тайным галасаванні, Ян Чыквін, „белавежац“, які будзе прадстаўляць у кіруючым органе беластоцкі польска-беларускі пісьменніцкі гурт.

## ПОШТА

**Дарагая рэдакцыя „Нівы“!**

Пішу да вас з прычыны няўдачнай падпіскі на ваш тыднёвік. Жыву ў цэнтральнай Польшчы, дзе ні „Ніва“, ні іншыя выданні для праваслаўных чытачоў не прадаюцца. Вакол амаль адны палякі, а нешматлікія „васточнікі“ ўтойваюць сваё паходжанне, хоць і непатрэбна. Я асабіста ніколі не сустрэўся з непрыемнасцямі з гэтай прычыны, адкрыта выпісваю па пошце праваслаўныя часопісы, а ў гэтым годзе падпісаўся і на „Ніву“. Была гэта мая другая спроба, пасля некалькігадовага перапынку, атрымліваць „Ніву“ па пошце. Але і на гэты раз атрымалася няўдача. Паасобныя экземпляры „Нівы“ гінуць у дарозе, і то не з-за намераных непрыязных адносін да беларускай праблемы, але з-за абыякавага стаўлення работнікаў прадпрыемства „Рух“ да сваіх абавязкаў. Я гэта правяраў.

Прашу вас сур'ёзна задумацца над увядзеннем іншых, як паштова-рухаўскія, відаў падпіскі на „Ніву“. Пакуль у нашай краіне будзе беспарадак, пакуль ніхто ні за што не будзе адказваць, датуль нельга спадзявацца на нармальныя для цывілізаваных краін спосабы дзейнасці. У „Ніве“ шмат цікавага, і я ахвотна плаціў бы падвойную цану за нумар, каб толькі магчы рэгулярна атрымліваць газету. Таму прапаную устанавіць рэдакцыйную падпіску: чытач плаціў бы грошы на ваш рахунак (цана газеты + кошты перасылкі), каб атрымліваць „Ніву“ бандэроляй або ў канверце. Падумайце, калі ласка, аб гэтым.

**Марк Цыбарт, Залеў, Сярадскае ваяводства**

* * *

**Дзень добры, паважаныя супрацоўнікі „Нівы“!**

Заўсёды, калі мне на вочы трапляецца ваша газета, я абавязкова купляю яе. Чытаю, як кажуць, ад коркі да коркі. Вельмі цікава ведаць, як жывуць беларусы за межамі Беларусі. І, наогул, мне падабаецца „Ніва“.

Я вельмі хацела б весці перапіску з беларускай з Польшчы ці іншай замежнай краіны. Мы вельмі мала ведаем аб сваіх суайчынніках за межамі. Хацелася б весці перапіску на беларускай мове. Буду вельмі ўдзячна вам, калі надрукуеце мой адрас.

Трошкі аб сабе. Я жыву ў Гомелі. Мне 23 гады. Гадую сына. З мужам разыйшлася. Люблю чытаць, падарожнічаць, слухаць музыку. Умею шыць, вязаць, гатаваць. Хацела б знайсці сяброўку свайго ўзросту і схільнасцей. Мой адрас:

БССР 246008
г. Гомель
вул. Н. Астроўскага, д. 134
кв. 4
Богуш Вольга.



## Свойскія малюнкі



*Могілкі ў Паўночным Вострaве. Мал. У. Петрука.*

## ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

### БУДЗЕМ ЧАКАЦЬ?

— Стаю я ў бары, стаю, чакаю, а тут чамусьці ўсё няма прадаўшчыцы. Нарэшце, прыйшла. Узяў я найтаннейшае, што было, сеў за столік, пачынаю есці. А зала — поўная людзей. Ды яны чамусьці не ядуць, чакаюць. Гэта пенсіянеры, якім ужо не пражыць за пенсію. Чакаюць „зупку-куранёўку“. І мне сорамна стала...

— Чаго тут саромішча, бяда — не грэх.

— Ды не таму мне сорам. Колькі мы ўсяго нарабілі, набудавалі, з папялішчаў падынялі, рук не шкадавалі. А на старасць — як жабракам, ласку робяць. Ем я, а мне слёзы ў горле каўкаць не даюць. А ведаеш, аб чым яны гавораць? Што цяпер няма сумлення нават паміраць. Бо пахаванне будзе сям'і каштаваць маёнтак...

— І за свой метр зямлі таксама трэба заплаціць. Нават калі цябе пахаваюць у магіле жонкі! Усё цяпер каштуе!

— Адзін чалавек, знаёмы, як толькі мяне ўбачыў, сеў задам. Не хацеў, каб я пабачыў яго бяду...

— А што, чалавек прыніжаны — ніколі ні ў кога не прасіў, а і не шкадаваў свайго нічога іншым, дарабіўся за свой пот і кроў, пралітую на чужых палях, такое ласкі! Таму шмат такіх, у каго няма што ў рот пакласці, а не пойдуць прасіць дапамогі.

— Думаеш, доўга вытрымаюць? Гэта яшчэ толькі пачатак. Людзі прызвычаіліся да таго, што дзяржава не дасць згінуць слабым і бедным. А што цяпер будзе, калі наверх выплывуць толькі цвёрдыя, што ўмеюць распіхацца локцямі, у якіх ёсць і здароўе, і сілы, і маладосць, і энергія, і грошы, і ахвота прабаваць новае? Такі табе выплыве, а старому і хвораму — на дно!

— Ты што? Праз год усё ўнармуецца, і пенсіі пабольшацца, і тавараў будзе больш...

— А што, тавараў няма? З усіх бакоў пхаюцца, каб ано ты іхняе купіў. Я купіла, вось, кілаграм цукру з самахода толькі за 4300 злотых. І што — паўпачкі цукру там было, а паўпачкі — солі!

— Хацела танней, то й купіла!

— Бачыш, што ў мутнай вадзе творыцца! Хоць ты не выходзь з хаты, бо абдураць!

— Але ж чалавек жывы, і трэба неяк жыць. Трэба перачакаць...

— Будзем чакаць — загрызуць!

— Хто загрызе? Свая згрызота. Трэба думаць, што рабіць!

— Мудрацы думалі. Філосафы не былі галодныя, яны ж паны былі. А рэвалюцыі рабілі галадранцы, на сваю галаву. Гарматняе мяса. Каб хоць можна было верыць, што ўсё ідзе да лепшага!

МІКОЛА ІВАНОЎ

## ДА ГІСТОРЫІ СТАЛІНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ

**2.6.І. Ці ёсць палякі на Беларусі?**

Для шмат каго з сённяшніх „польскіх патрыётаў“ паняцце „беларус-каталік“ гучыць амаль-што як нацыянальная абраза. Крэсавы стэрэатып „каталік-паляк“ успрымаецца імі амаль як аксіёма, а кожная спроба абвяржэння гэтага стэрэатыпу — як праяўленне варожай антыпольскасці. Аднак, як бы мы ні адносіліся да гэтага роду шавінізму, стэрэатып „католік-паляк“ запусціў даволі глыбокія карэнні і практычна аж да сённяшняга дня дамінуе ў свядомасці насельніцтва Беларусі. Свядомыя беларусы-католікі заўсёды былі ў меншасці сярод этнічна беларускага каталіцкага насельніцтва Беларусі. Нават у перыяд выдатнай ахвярнай дзейнасці ксяндза Адама Станкевіча і ягоных беларускіх хадэкаў зламаць гэты стэрэатып удалося толькі нязначна. І толькі сёння ў перыяд новага нацыянальнага адраджэння нашага народа, дзякуючы актыўнай дзейнасці Беларускага народнага фронту і іншых беларускіх палітычных груп, пачаўся працэс няўхільнага абвяржэння гэтага стэрэатыпу.

Сталінізм са свайго бокуператварыў праблему польскай нацыянальнай меншасці на Беларусі ў пытанне выключна палітычнае. З дапамогай польскай карты намагаўся ён на Беларусі далей ажыццяўляць тактыку самаўладдзя. Выключна ў палітычных мэтах, якія не мелі нічога супольнага з сапраўднымі нацыянальнымі інтарэсамі польскай нацыянальнай меншасці на Беларусі, польская мова была абвешчана ў Канстытуцыі БССР 1927 г. дзяржаўнай, а палякі атрымалі з рук бальшавікоў даволі шырокую нацыянальную аўтаномію. Такое значнае пашырэнне правоў польскай нацыянальнай меншасці павінна было гарантаваць бяспечнае для камуністычнай партыі развіццё беларусізацыі. Моцны і ўплывовы польскі элемент на Беларусі павінен быў увесь час прыпамінаць камуністычным правадырам беларускага адраджэння ў Мінску гістарычныя традыцыі шматгадовай польскай цывілізацыйнай дамінацыі на гэтых землях і папярэджваць іх супраць занадта вялікай самастойнасці ў вырашэнні лёсаў свайго народа.

Аднак, хто ж яны былі — гэтыя палякі ў Беларускай ССР? Перш за ўсё трэба адзначыць, што пераважная большасць беларускіх палякаў была мясцовага паходжання. У гэтым, трэба прызнаць, ніхто з даследчыкаў гэтай праблемы не сумняваецца. Аб сваёй „гістарычнай бацькаўшчыне — Польшчы“ мясцовыя католікі мелі вельмі туманнае ўяўленне. Была яна для іх хутчэй нейкім сімвалам веры, а не канкрэтным нацыянальным цэнтрам. На так званых крэсах амаль ніхто з мясцовых часта па-польску не гаварыў. Польская мова адыгрывала ролю своеасаблівай „лаціны“: на ёй маліліся ў касцёле, яе вывучалі нешматлікія мясцовыя грамацеі, ёй карысталася арыстакратыя. Прыгадаем вельмі знамянальны прыклад. Сяляне-католікі з Карытнянскага польска-

# а. НАДСОН У ВАРШАВЕ

У нядзелю, 18 сакавіка г.г., затрымаўся на адзін дзень у Варшаве, вяртаючыся з Мінска ў Лондан, апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў айцец Аляксандр Надсон. У Мінск прывозіў ён як старшыня Беларускага камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі лякарствы для хворых, пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі.

У час кароткага візіту ў нашай сталіцы а. Аляксандр Надсон адправіў набажэнства ў касцёле айцоў Базыльянаў пры вул. Мядовай і сустрэўся з беларускай студэнцкай моладдзю ў памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ. **(л)**

---

— „Чалавек страляе, Бог кулі носіць!“ Такая гісторыя. Што мае быць — будзе...

— Але! Можа яшчэ скажаш, што гісторыю ці палітыку робяць такія зялёненькія, якіх нам падкідае космас, ці можа д’ябал? А можа, Бог дапускае? Хто за нас выбірае?

— А ты, Сцяпане, жонку сабе выбіраў? Сам казаў, што Гандзю на тваёй дарозе чэрці паставілі! А калі б не твая Гандзя, то і водаправода ў нашай вёсцы не было б! Такую Гандзю да нас толькі Бог мог паслаць! Усюды дайшла, усяго дабілася. Каб усе такія былі, як Гандзя, іначай было б у нашых вёсках!

— Ля, а я думаў, што ўсе забылі, што гэта ўсё Гандзіна работа!

— Пэўна, лягчэй глядзець толькі каля сябе і нікуды не ўлазіць, каб у каплех не надавалі. Ні ў ніякія партыі, ні ў ніякую палітыку... **(лук)**

# „Усходняя Літва“ -

## ГАЗЕТА РАЗНАМОЎНЫХ ЛІЦВІНОЎ

Такі загаловак і падзагаловак мае новая газета, якая ўзнікла 6 лютага г.г. ва ўсходняй Літве. Выданне гэтае прыкоўвае ўвагу незвычайнай асаблівасцю: надрукавана яно на адным з віленскіх дыялектаў са шматлікімі беларускімі элементамі, аднак больш падобным ужо да польскай літаратурнай мовы. Дыялект гэты аўтары выдання называюць „вічскай гутаркай“ (назва ад прозвішчаў, закончаных суфіксам **-іч, -віч,** а дамінуючых на гэтай тэрыторыі), не атаясамліваюць сябе з польскай нацыянальнасцю, а выключна з „ліцвінамі“, што адпавядае этнічнай і гістарычнай назве жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага — як літоўцаў, так і беларусаў. Характар выдання і ягоная моўная спецыфіка паказваюць на настойлівыя пошукі жыхароў Віленшчыны, якія гавораць гэтым дыялектам, сваёй нацыянальнай і культурнай тоеснасці. Аднак, — як піша рэдактар выдання Эдвард Саткевіч, — „літоўскамоўныя фанатыкі“ на кожным кроку стараюцца іх „называць палякамі“. Не лепш адносяцца да гаворкі „вічскіх ліцвіноў“ і мясцовыя віленскія палякі, якім цяжка яе зразумець, і якім, — як пішуць. — „...не толькі хочацца“ на яе напляваць“. Гэткія зняважлівыя словы наконт „вічскай гаворкі“ з’явіліся ў газеце „Чырвоны штандар“, што выходзіла на польскай мове ў Вільні.

На першай старонцы газеты „Усходняя Літва“, якая выйшла тыражом 5000 экземпляраў, апублікавана лацінскім беларускім алфавітам (карысталіся ім у свой час беларусы каталіцкага веравызнання) 6 беларускіх прыпевак: „Сядзіць голуб на кусце“, „Слаўны, стройны, сінявокі“, „Ты да мяне, я да цябе“, „Андрэй, не дурэй“, „Ян Прахор лазу дзёр“, „Не стаі на гарэ“. Як пішуць аўтары выдання, песні гэтыя звязаны з іх віленскай тэрыторыяй і маюць больш чым сямідзесяцігадовую даўнасць!.

Аўтары просяць чытачоў напісаць ім, хто і дзе іх публікаваў, чаму цяпер іх не друкуюць такім алфавітам.



**Fschodnia Litva**

GAZETA RUŽNUGAVENDNYCH LITVINUV

Што нам думаць пра тое?

Прачытаўшы ад дошкі да дошкі гэтае выданне, гаворачы словамі славутага Максіма Багдановіча, „сціскаюцца грудзі“, што ў наш XX век, які ўжо канчыцца, існуюць яшчэ на этнічных пагранiччах тэрытарыяльныя энклавы, на якіх людзі не ведаюць, хто яны па нацыянальнасці, якія нярэдка сваю мову, або гаворку лічаць „бескультурнай“, хоць не аднойчы на ёй у мінулым гаварылі князі або каралі, „простай“, „тутэйшай“ ці яшчэ інакш. Што іх мову, якой яна ні была б, зневажаюць нярэдка адукаваныя людзі. Уся бяда ў тым, што гэта бяда не толькі аднаго беларуска-літоўска-польскага пагранiчча, але беларуска-польскага, беларуска-украінскага, украінска-польскага ці украінска-славацкага. Такія праблемы існуюць і на славацка-польскім культурным і этнічным пагранiччы. На аснове газеты „Усходняя Літва“ нам цяжка канчаткова вырашаць за жыхароў Віленшчыны іх нацыянальныя праблемы, бо ж раней ці пазней самі яны прымушаны так ці інакш іх вырашыць, самі дайсці да таго, хто яны, без ніякага ўмешвання звонку. Але мы абавязаны маральна шанаваць іх мову, іх дыялект ці гаворку і аказваць ім у гэтым дзейсную падтрымку! Мы абавязаны таксама выказваць свой погляд на гэтую праблему. А ён такі: мова газеты „Усходняя Літва“ з’яўляецца не да канца паланізаванай беларускай мовай (сведчыць пра тое, між іншым, адсутнасць насавых гукаў, якія існуюць у польскай мове ą, ę, наяўнасць беларускіх лексем, а таксама і перш за ўсё захаванне, нягледзячы на ўсё, беларускай народнай культуры — фальклору). За нашым поглядам выдатна прамаўляе і моцная гістарычная свядомасць жыхароў Віленшчыны з часоў Вялікага княства Літоўскага, якая дазваляе ім адчуваць сябе і лічыць „ліцвінамі“, што ў сённяшніх умовах абазначае: літоўцамі або беларусамі (глядзі артыкул „Ліцвіны“ ў III томе „Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі“, Мінск 1986, стар. 287).

Такая нізкая нацыянальная свядомасць жыхароў Віленшчыны з’яўляецца зразумелай і таму, што ў пасляваенны перыяд не было там ніякіх беларускамоўных школ (гэта падобнае крыху да нашага беларускамоўнага каталіцкага абшару на Дубароўшчыне), а існавалі польскамоўныя. Пацяшальнае аднак тое, што засталася ў іх, па сутнасці, нашых землякоў, такая моцная гістарычная свядомасць і не менш моцная прага стацца сабою, нацыяй у поўным сэнсе гэтага слова! Ад усяго сэрца жадаем нашым віленскім братам з поўным пачуццём уласнай годнасці стаць на ўласныя ногі!

**Іван Кадлубоўскі**

---

га нацыянальнага савета, выслухаўшы палітычны даклад, які для іх быў спецыяльна падрыхтаваны на польскай мове, амаль аднагалосна сцвердзілі, што мінскі лектар звяртаўся да іх... па-нямецку. Аб гэтым цікавым факце паведаміў сваіх чытачоў часопіс „Бальшавік Беларусі“ ў 2 нумары за 1928 год. Другі характэрны факт. Адзін з галоўных дзеячаў польскай нацыянальнай аўтаноміі на Беларусі дырэктар мінскага польскага педагагічнага тэхнікума Чэслаў Дамброўскі, абмяркоўваючы перспектывы развіцця польскай школы на Беларусі, сцвярджаў, што сярод 400 тысяч беларускіх католікаў ўсяго толькі 4—5 тысяч могуць адносна свабодна паслугоўвацца літаратурнай польскай мовай. Пераважная ж большасць карыстаецца ад веку беларускай мовай з дамешваннем паасобных польскіх слоў. Такім чынам, як бачым, польскасць на Беларусі не базавалася, як сцвярджаюць некаторыя, на польскай мове. Крытэрыі залічэння да польскасці палягалі на іншым: перш за ўсё — на прыналежнасці да каталіцкае рэлігіі, а таксама на суб’ектыўных духоўных фактарах акрэслення нацыянальнай прыналежнасці. Фактары гэтыя часам абсалютна немагчыма растлумачыць у катэгорыях дакладнага навуковага аналізу.

Па свайму паходжанню польскае насельніцтва на Беларусі дзялілася на чатыры адменныя групы:

Першая — гэта прадстаўнікі шляхты мясцовага паходжання, якія паступова, пачынаючы ад XV стагоддзя, пераходзілі на каталіцызм і паланізаваліся. Большая частка з іх ніколі сапраўднай польскай мовай не карысталіся. Тыя ж, хто яе ведаў, паступова ў сувязі з жорсткай русіфікацыйнай палітыкай царызму, пераходзілі на мову большасці жыхароў Беларусі, на беларускую мову. Па свайму маёмаснаму становішчу каталіцкая шляхта вельмі мала адрознівалася ад сялянскага насельніцтва.

Другая група — гэта сяляне, былыя уніяты, якім удалося ў сувязі з праследваннем іх рэлігіі ў сярэдзіне і другой палове XIX стагоддзя перайсці на каталіцызм. У каталіцызме бачылі яны найлепшы сродак абароны іх веры. За каталіцызмам, зразумела, ішла польскасць, але польскасць вельмі плыткая, без сапраўдных карэнняў. Аб гэтым сведчаць шматлікія прыклады пераходу гэтай катэгорыі католікаў на праваслаўе на пачатку стагоддзя. Пераход гэты адбываўся ў сувязі з дыскрымінацыйнай палітыкай царызму, якая адмаўляла католікам магчымасці набываць танную зямлю з дзяржаўнага фонду, не дазваляла ім карыстацца нізкапрацэнтнымі крэдытамі сялянскага банка і т.п. Працэс гэты прыпыніла Кастрычніцкая рэвалюцыя. Частка гэтых новаяўленых праваслаўных зноў вярнулася да каталіцызму.

Трэцяя група — гэта прадстаўнікі так званай заробкавай эміграцыі, якія прыбылі на Беларусь з мэтай паляпшэння свайго матэрыяльнага становішча. У асноўным былі гэта палякі з цэнтральнай Польшчы, якія да рэвалюцыі арэндавалі зямлю ў мясцовых памешчыкаў, а пасля рэвалюцыі сталі яе ўладарамі. Палякі-рабочыя працавалі ў гутах шкла, на чыгунцы і т.п.

Чацвёртая група — гэта палітычная эміграцыя з Польшчы. У яе склад уваходзілі шматлікія палякі-камуністы, актыўныя ўдзельнікі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. І хаця яны складалі менш аднаго працэнта агульнай колькасці польскай нацыянальнай меншасці на Беларусі, іх пазіцыі былі вельмі ўплывовымі. У 1924 г., напрыклад, на Беларусі сярод прафесійных партыйных работнікаў палякаў было 10,9%. Агульнапартыйны перапіс 1922 г. зарэгістраваў у складзе бальшавіцкай партыі 5.649 палякаў. Працэнт палякаў — членаў партыі адносна ўсяго польскага насельніцтва СССР быў амаль у 7 разоў вышэйшы, чым сярод беларусаў. Такім чынам, у польскім асяроддзі было нямала жадаючых узяцца за саветызацыю палякаў і за стварэнне „аўтаномнага польскага сацыялістычнага грамадства“ па-за межамі польскай этнаграфічнай тэрыторыі.

Рэвалюцыя ліквідавала пятую групу — палякаў-крэсавякаў. Гэта былі прадстаўнікі польскай арыстакратыі, магнатэрыі, буржуазіі і значная частка інтэлігенцыі. Яны або перасяляліся ў адроджаную Рэч Паспалітую, або былі знішчаны ў час рэвалюцыі і грамадзянскай вайны „чырвоным“ тэрорам.

*(Працяг будзе)*

# ЗАВАРОЖАНЫ РОДНЫМ

Калі мне ўпершыню давялося ў 1988 годзе пабываць на Гродзеншчыне, сябры з „Паходні“ палічылі абавязкам паказаць мне Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей і пазнаёміць з яго заснавальнікам. Ад першай сустрэчы з Алесем Белакозам мне стала вядома, што маю дачыненне з энтузіястам, чалавекам, заварожаным сваёй зямлёй і яе мінулым. Нядаўняя другая сустрэча пацвердзіла толькі маё перакананне і папоўніла вобраз гэтага сапраўднага патрыёта, змагара за нацыянальнае адраджэнне беларускага народа.

Алесь Белакоз ад 1948 года працуе ў Гудзевічах выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў мясцовай школе. З любові да роднага ўзнікла ў яго ў палове шасцідзесятых гадоў задума стварыць супольна з вучнямі музей. Пачалі збіраць краязнаўчыя матэрыялы, наладзілі сувязь з літаратарамі і вучонымі з розных цэнтраў Савецкага Саюза і з-за мяжы. Пачатак быў вельмі скромненькі — для сабраных экспанатаў быў адведзены невялічкі пакойчык у школе. Ідэю Алеся Белакоза падтрымаў старшыня мясцовага калгаса Міхась Пронька. Дзякуючы яму на патрэбы музея была куплена і перавезена сялянская хата з XIX стагоддзя (там зараз этнаграфічны музей), быў адрамантаваны і прыстасаваны будынак старой школы, калі тая атрымала новае памяшканне.



*Алесь Белакоз знаёміць з музеем.*

Зараз у музеі звыш 6 тысяч экспанатаў. У зале, прысвечанай беларускай літаратуры, шмат цікавых і каштоўных рэчаў. Значнае месца займаюць рэдкія выданні беларускіх кніг і часопісаў, а сярод іх „Лемантар“ Алесі Смоліч, „Заранка“, рэдагаваная Зоськай Верас ці штомесячнік „Беларуская борць“. На стэндах многа здымкаў літаратараў і мастакоў, іх лістаў і твораў з аўтографамі. Усё гэта сабрана ў выніку перапіскі вучняў Гудзевіцкай школы з беларускімі літаратарамі. Сярод экспанатаў можна заўважыць ручку, якой Уладзімір Караткевіч напісаў „Каласы пад сярпом тваім“, аўтографы касманаўтаў-землякоў Пятра Клімука і Уладзіміра Кавалёнка, зборнікі і рукапісы Ларысы Геніюш, якая вучылася ў Гудзевіцкай школе. Сустракаю і беластоцкія акцэнты: „Ніву“ з артыкулам пра Міхася Арла, ліст Юры Туронка, кніжку Сакрата Яновіча „Сярэбраны яздок“ з аўтографам аўтара, „Беларускі каляндар“, выдадзены Галоўным праўленнем БГКТ.

У другой зале шырока прадстаўлена народная творчасць. Тут можна пазнаёміцца з многімі прадметамі — ад найдаўнейшых, зробленых далёкімі продкамі ў каменны век, да больш ужо сучасных вырабаў рамеснікаў з XIX і XX стагоддзяў. Творы народных умельцаў сабраны ў тэматычныя групы: кавальства, апрацоўка лёну, вышыўка і ткацтва, вырабы з дрэва, саломкі і лазы, ганчарства. Прыцягвае зрок жаночая і мужчынская народная вопратка жыхароў Гудзевіч з трыццатых гадоў нашага стагоддзя. Вялікай рэдкасцю з'яўляецца глобус з Віленскай беларускай гімназіі: на ім геаграфічныя назвы напісаны па-беларуску.

У музеі ёсць асобная зала з творамі выяўленчага мастацтва на літаратурныя і гістарычныя тэмы. Сярод ахвярадаўцаў сустракаем прозвішчы Міколы Купавы, Арлена Кашкурэвіча, Аляксея Марачкіна, Алеся Ліпеня і іншых.

Зусім нядаўна створаны музей народнай медыцыны. У ім сабраны розныя віды зёлак, апісаны лекавыя асаблівасці кожнай зёлкі, скамплектавана багатая літаратура. Алесь Белакоз з'яўляецца гарачым прыхільнікам лячэння крамянёвай вадой. Крэмень змяшчае ў сабе многія мінеральныя рэчывы, якія дапамагаюць хвораму арганізму змагацца з хваробамі. Дзеянне крамянёвай вады праверыў ён на сабе і таму такі від лячэння прапануе наведвальнікам. А крамянёвая вада рыхтуецца наступным чынам: крэмень разбіць на дробныя кавалкі велічынёю арэха, 5—10 кавалкаў крэменю пакласці ў слоік і заліць вадою. Настойваецца яна пяць дзён. Так падрыхтаваную ваду трэба піць малымі глыткамі толькі ў час хваробы. Пры хваробах скуры крамянёвай вадой трэба абмываць хворыя месцы.

Побач школы-музея стаіць маленькая вясковая хатка. У ёй размяшчаецца этнаграфічны музей. Калі ўваходзіш у сярэдзіну, здаецца, што гэта не музей-

# РЫБАЛАЎСКІ ПРЫХОД

(Праняг са стар. 1)

Назва мясцовасці Рыбалы выводзіцца ад галоўнага занятку яе жыхароў — лоўлі рыбы ў Нарве на патрэбы двара ў Бельску-Падляшскім.

У 1556 годзе была праведзена тут валочная памера. Вёску перанеслі на іншае месца (дзе яна знаходзіцца і цяпер) і перайменавалі на Антонавічы (праўдападобна валочную памеру праводзіў войт па імені Антон). Назву Рыбаловы атрымала суседняя вёска Канюкі. Аднак жыхары не адобрылі гэтых змен і карысталіся ранейшымі назвамі. Тады таксама была пракладзена вясковая вуліца і загадана было будавацца паабапал яе. Вёска складалася з некалькіх частак, якія называліся так: Кунець, Вульшына, Навасёлкі і Паўлаўская гуліця.

На новае месца была перанесена царква. Ад ранейшай лакалізацыі храма асталіся сёння назвы ўрочышчаў Цэркавіска і Дзякаўка. Можна здагадвацца, што царква і рэлігійнае жыццё ўзніклі тут разам з наплывам асаднікаў з усходу ў раннім сярэднявякоўі.

У 1576 г. вёска налічвала 79 гаспадарак, у тым ліку 77 сялянскіх, велічынёю ў 1 валоку, і па адной войтаўскай і царкоўнай па 2 валокі. Апошнія гаспадаркі былі звольнены ад арэнднай платы.

У час шведскай вайны, а таксама ў час эпідэміі ў 1710 годзе гэтыя ваколіцы надта абязлюдзелі. У дваццатыя гады XVIII ст., дзякуючы бельскаму старасту Яну Клеменсу Браніцкаму, былі створаны ў Рыбалах фальварак, а ў 1737 г. устаноўлены мясцовыя кірмашы.

Невядомая дата пераходу Рыбалаўскага прыхода на уніяцтва. Знаходзіўся ён у гэтым веравызнанні ў пачатку XVIII ст. У пяцідзесятыя гады гэтага стагоддзя, дзякуючы пароху а. Сцяпану Грыманеўскаму — рыбалаўскаму настаяцелю і адначасова падляшскаму дэкану, ва ўрочышчы Цэркавіска, дзе раней знаходзілася царква, была пабудавана капліца Праабражэння Гасподняга.

У 1795 годзе на плане васьмівугольніка быў пабудаваны драўляны храм на мураваным фундаменце, крыты чарапіцай. У сярэдзіне знаходзіўся вялікі алтар, пад якім хавалі рыбалаўскіх святароў. Пасля III падзелу Рэчы Паспалітай прыход апынуўся у межах Прусіі. Пруския ўлады, баючыся эпідэміі, увялі свой гігіенічны рэжым і загадалі хаваць памёршых па-за населенай тэрыторыяй. У сувязі з гэтым пляц пад новы могільнік выдзялілі за вёскай, пры дарозе ў Бельск-Падляшскі.

Пад канец трыццатых гадоў XIX стагоддзя Рыбалаўскі прыход вяртаецца да праваслаўя. Ад 1835 года да прыхода належалі вёскі Рыбалы, Паўлы, Войшкі, Канюкі, а таксама Кажаны, Чарэўкі, Дарожкі, Панькі, Рэпнікі, Трычоўка і Заечкі — мясцовасці з былога прыхода ў Кажанах, ліквідаванага рашэннем епархіяльных уладаў.

У 1847—1849 гады праводзіўся генеральны рамонт царквы. Прыход налічваў 2275 вернікаў.

У 1863 г. у Гродзенскай губерні была праведзена сялянская рэформа і зроблены былі новыя надзелы зямлі. У Рыбалах былі вызначаны сядзібныя ўчасткі шырынёю да 20 метраў, якіх далей дзяліць было ўжо немагчыма, і таму сялянскія двары размяшчалі адзін за адным. Дайшло да таго, што на адным участку знаходзілася па два-тры двары. Такі стан можна заўважыць і зараз.

У 1873 годзе моцна знішчаную драўляную прыхадскую царкву разабралі і перавезлі на могілкі. З яе элементаў і з разабранай царквы ў Кажанах (закрытай у 1835 г.), была пастаўлена могільнікавая капліца, якую высвяцілі ў 1874 г., у дзень Пакровы Божай Маці. Новая царква будавалася ў 1874—1879 гады. Частку грошай на яе пабудову прызначылі царскія дзяржаўныя ўлады. Царква св. Кузьмы і Дзямяна служыць прыходу і сёння.

У 1875 г. прыход складаўся з наступных вёсак: Рыбалы, Паўлы, Войшкі, Канюкі і Плёскі, якія далучылі з прыхода ў Райску. Вернікаў было 2859. У 1884 г. былі арганізаваны 4 школы „граматы“ для вясковых дзяцей у Войшках, Канюках, Паўлах і Плёсках. У Рыбалах было створана „народное училище“, у якім вучылася 262 дзяцей. Прыхадская грамадскасць, хоць не надта заможная, была ахвярнай. Сведчаць аб гэтым многія дары жыхароў для царквы (іконы, харугвы, сярэбранае і залочанае літургічнае начынне, панікадзіла) і значныя сумы грошай. У XIX стагоддзі былі пабудаваны могільнікавыя цэрквы ў Паўлах і Плёсках, а таксама каплічка ў Войшках. У 1906 годзе ў Рыбалах быў пастаўлены новы мураваны прыхадскі дом, які існуе і сёння.

Незадоўга перад I сусветнай вайной прыхаджане падарылі царкве дзве каштоўныя іконы: св. Міколы і св. Панцеляймона ўківотах.

Усё абсталяванне царквы ў

ная экспазіцыя, а сапраўдная сялянская хата. Усе прадметы знаходзяцца на сваім прывычным месцы: на вокнах фіранкі-выцінанкі, у куце абрамлена ручніком ікона з выявай... Францыска Скарыны, развешанае адзенне на сцяне, калыска завешаная пад столлю, куфар накрыты сурвэткай, каструлі на коміне, свежа падмецены ток — усё гэта робіць уражанне, што гаспадары выйшлі дзесьці на хвілінку.

Калі гляджу на музейны комплекс у Гудзевічах і ўяўляю ўмовы, у якіх ён ствараўся, ведаю, што мог ён узнікнуць толькі і выключна дзякуючы чалавеку-энтузіясту, якім і ёсць Алесь Белакоз. Калі расказвае пра стварэнне музея, пра гісторыю асобных экспанатаў, адчуваецца шчырая радасць у голасе, жэстах, міміцы. Энтузіязм і любоў да роднага памагалі яму змагацца з перашкодамі, якія сустракаў, здзяйсняючы сваю жыццёвую ідэю. Алесь Болакоз заўсёды адстойваў беларускасць і неаднойчы на настаўніцкіх канферэнцыях закідаў раённым і абласным чыноўнікам абыякавасць да беларускай мовы, русіфікатарства. Вядома, з-за гэтага ў чыноўнікаў не меў добрай маркі, абвінавачваўся ў нацыяналізме. Былі пагрозы і ўмешванні з боку тагачасных мясцовых ідэолагаў, як, напрыклад, патрабаванне не экспанаваць постаці Ларысы Геніюш і яе творчасці.

Усім, хто апынецца на Гродзеншчыне, горача прапаную наведаць музей у Гудзевічах, пазнаёміцца з яго заснавальнікам.

**В. Луба**

Фота Р. Бараноўскага

# БЕЛАРУСКІЯ СІМВАЛЫ

**(Працяг са стар. 1)**

Вільні ў 1909—1917 г.г., напрыклад, Саюз незалежнай Беларусі, які змагаўся за незалежную дэмакратычную рэспубліку. 7 снежня 1917 г. Беларуская рада загадала салдатам XII арміі насіць стужкі бела-чырвона-белага колеру. 25 сакавіка 1918 г. Кангрэс Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанавіў нацыянальныя колеры сцяга Беларусі. Ім карысталіся беларускія войскі, фарміраваныя ў 1919-20 г. у Літве і Польшчы, беларускія нацыянальныя арганізацыі ў міжваенны перыяд, беларускія арганізацыі ў II сусветнай вайне і цяпер незалежныя беларускія арганізацыі ў Польшчы, Савецкай Беларусі і на эміграцыі.

Што абазначаюць белы і чырвоны колеры на нашым сцягу? Белы — гэта вышэйшыя духоўныя каштоўнасці, чырвоны — абазначае сілу, дастоінства і маестат.

**Герб Пагоня.**

Герб для дзяржавы з'яўляецца сімвалам незалежнасці, а для гарадоў — падкрэслівае грамадскую і праўную іх пазіцыю. Пагоня ў часы старажытнай Беларусі стала нацыянальным яе гербам. Упершыню ў дакументах аб Пагоні гаворыцца ў Густынскім летапісе на пачатку XIV ст.: „Віцень, які пачаў княжыць над Літвою і абраў сабе герб і ўсяму княству Літоўскаму пячаць: рыцар збройны на кані з мячом, што цяпер называюць пагоняй..."

Князь Віцень паходзіў з літоўскага роду, які карыстаўся гербам Калюмны. Узяўшы дзяр-



жаўную ўладу, ён змяніў свой герб і распаўсюдзіў яго на ўсе землі Вялікага княства Літоўскага. Аб гербе Пагоня ўспамінаецца ў летапісе Быхаўца. Там упершыню мы сустракаем яе апісанне: „Чалавек на кані з мячом абазначае герб пана добрага, які мог бараніць мячом айчыну сваю".

Да канца XIV ст. Пагоня канчаткова стала дзяржаўным гербам Вялікага княства Літоўскага. Некаторыя беларускія князі мелі дачэпленыя да Пагоні ўласныя родавыя і асабістыя знакі. Харугві Вялікага княства Літоўскага, якія прымалі ўдзел у Грунвальдскай бітве ў 1410 г., паводле апісання старажытнага гісторыка Яна Длугаша, мелі на сваіх сцягах выявы коніка з ездаком і мячом. Конь пад ездаком быў белы, часам чорны, гняды. Некаторыя князі каларыстыкай каня абазначалі свае войскі і прыналежнасць да харугві. Магчыма, апошнія харугві знаходзіліся ў іншай ступені падпарадкавання князю Вітаўту, што знайшло сваё адлюстраванне на сцягах не дзяржаўнага, а менавіта родавага герба. Канчатковае юрыдычнае афармленне Пагоні адзначаецца статутамі 1566 і 1588 г.г., дзе ў адпаведных артыкулах фіксавалася абавязковае ўжыванне яе ў якасці герба на граніцах ваяводстваў і паветаў Вялікага княства Літоўскага. Дзяржаўная сімволіка адбілася на гарадскіх гербах. Пагоню на сваіх гербах меў Мсціслаў, Пінск, Крычаў, Брэст, Драгічын і Беласток.

**Антось Міраповіч**



# Wyznanie

**(Працяг са стар. 2)**

Działajcie i wciągajcie do swego dzialania innych (przecież nie każdy ma do tego predyspozycje), nie zasklepiajcie się w sobie. Ja ze swojej strony oddaję wam do dyspozycji swoją osobę. Chcę coś robić, znaleźć swoje miejsce. Może do czegoś się przydam? Nie odtrącajcie, nie chcę stać z boku i udawać kogoś innego.

**Nazwisko i adres znane redakcji.**

Рыбалах было ў 1915 годзе вывезена ў глыб Расіі. Большасць царкоўнага начыння прапала. У час вайны вёска згарэла, засталося ўсяго восем дамоў. Жыхары, якія ў 1915 г. падаліся ў бежанства, вярталіся дамоў пасля 5—7 гадоў бадзяння. У 1921 г. жыло тут толькі 50 працэнтаў насельніцтва ў параўнанні з 1914 г. Жылі яны ў зямлянках, харчаваліся лебядой і бярозавай карою. У канцы дваццатых гадоў пачалі будаваць новыя дамы, хлявы, клуні. Частка новых будынкаў згарэла ў 1936 годзе.

У незалежнай Польшчы змянілася юрыдычная сітуацыя Праваслаўнай царквы. Праваслаўе з прывілеяванага веравызнання сталася ледзь цярпімай меншасцю. На шчасце, прыход у Рыбалах атрымаў дазвол на існаванне. Суседнія прыходы ў Кажанах і Пухлах такога дазволу не мелі.

Нягледзячы на цяжкое матэрыяльнае становішча, прыхаджане пачалі адбудоўваць царкву ў 1924 г. Рэстаўрацыя вялася толькі на сродкі прыхаджан, сабраныя грошы хутка трацілі сваю вартасць з-за інфляцыі. Аснашчэнне царквы (начынне, харугвы, аблачэнне) працягвалася ўвесь міжваенны перыяд. Толькі дзякуючы ахвярнасці вернікаў стала магчымым аснашчэнне царквы ва ўсё, што было неабходнае для яе дзейнасці. У 1926 г. рашэннем Беластоцкага ваяводы было забрана на дзяржаўную ўласнасць звыш 60 працэнтаў царкоўнай зямлі.

У канцы 1929 г. з'явіліся ў Рыбалах сектанты прарока Ільі з Грыбоўшчыны. Парушалі яны багаслужбы, даводзілі да скандалаў. Большым цэнтрам прыхільнікаў саматужнага прарока Ільі Клімовіча была суседняя вёска Цялушкі. Секта, якая карысталася дапамогай з боку дзяржаўных улад як раскольніцкая група ў праваслаўі, практычна перастала існаваць у першыя гады пасля вайны.

У час II сусветнай вайны ў прыходзе было многа трагічных здарэнняў. Многія жыхары загінулі ў час расправы ў Трычоўцы і Войшках, некалькі дзесяткаў юнакоў і дзяўчат было вывезена на работы ў Германію.

У 1940 годзе савецкая адміністрацыя забрала прыхадскі дом на пастарунак міліцыі. У канцы 1941 г. размясцілася ў ім нямецкая паліцыя.

Акупацыя была перыядам, у якім узрасло зацікаўленне рэлігійным жыццём. Павялічыўся лік асоб, прыступаючых да споведзі, кантакты вернікаў з царквою сталі больш інтэнсіўнымі. Пасля II сусветнай вайны пачаўся этап паўторнай адбудовы і рамонту сакральных аб'ектаў. У 1944—1946 гады грунтоўна быў зменены інтэр'ер царквы. Аўтарам жывапісных работ быў мастак Уладзімір Васілевіч. Прыхаджане, якія вярталіся з вайны з розных бакоў свету, за сваё ўратаванне ставілі ахвярныя крыжы ў канцы вёсак. Такія крыжы знаходзяцца ў Рыбалах, Канюках, Войшках і Паўлах.

У 1946 годзе прыход належаў да Беластоцка-бельскай епархіі і налічваў 2333 вернікаў. Некалькі соцень чалавек у час рэпатрыяцыі выехала ў БССР. У маі 1947 года быў ліквідаваны ў Рыбалах пастарунак міліцыі, і тады прыхадскі дом быў вернуты царкве. У сакавіку 1948 г. прыход наведаў кіруючы Беластоцкай епархіяй вроцлаўскі епіскап Міхал (Кядроў). У Вэнгрове купілі звон вагою 622 кг. Добраўпарадкаванне царкоўнай сядзібы і ўсіх будынкаў патрабавала часу, фінансаў і заангажавання чарговых настаяцеляў.

У 1968 г. пазалочаны быў іканастас і царква ўзбагацілася новымі прадметамі. У 1974 г. прыход наведаў мітрапаліт Васілій, а пяць гадоў пазней прымаў ён удзел у святкаванні юбілею стагоддзя асвячэння царквы (1879—1979). З гэтай нагоды засталася ікона св. Кузьмы і Дзямяна з прысвячэннем мітрапаліта. У наступным годзе царква гасцявала люблінскага епіскапа Сымона.

Пасля юбілею клапатлівасць прыхаджан была накіравана на рэстаўрацыю сакральных і прыхадскіх аб'ектаў. Праведзены быў рамонт могільнікавай царквы і агароджы вакол могілак. Была адрамантавана студня-капліца ў самой вёсцы і ва ўрочышчы Пятрашкі. Плябанію і дом псаломшчыка мадэрнізавалі, а ў прыхадской царкве была пакладзена новая падлога. Ад 1987 г. вядуцца працы над упрыгожаннем храма — унутры і звонку. Поўнасцю памаляваны дах. Праводзіцца рамонт капліцы на Пятрашках і парадкуецца могільнік у Рыбалах. Ідзе капітальны рамонт могільнікавай царквы ў Паўлах. Пачалася будова гаспадарчага будынка ў Рыбалах.

Пасля вайны сістэматычна падаў лік вернікаў, якія выязджалі ў суседнія гарады і ў глыб краіны ў пошуках лепшай працы. Сёння прыхадская грамадскасць, як і ў большасці вёсак, — гэта пераважна старыя людзі. У сям'і ў сярэднім па 2,6 асобы. Памалу ўзнікае такая перспектыва, што ў вёсцы застануцца людзі ў пенсіённым узросце. Сельскагаспадарчы камбінат, што побач з вёскай, дае працу многім людзям, якія з-за кватэры затрымоўваюцца тут надаўжэй, але не назаўсёды. Зараз у кімбінаце працуе больш 200 чалавек, а 60 сем'яў жыве ў чатырох блоках. У „камбінацкай" сям'і — 3,6 асобы. 2/3 працаўнікоў камбіната — гэта праваслаўныя.

**Р. С.**

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


З ЦЭНТРАЛЬНАГА АГЛЯДУ ШКОЛЬНЫХ ТЭАТРАЎ



*Фрагмент спектакля „Валовая хатка" ў выкананні школьнага тэатра з Гайнаўскай школы № 3.*

## Дасканаліцца мастацкае слова

17 сакавіка ў Бельскім доме культуры адбыўся сёлетні цэнтральны агляд школьных тэатральных калектываў. Папярэдзілі гэтае свята сцэнічнага мастацтва раённыя конкурсы школьных тэатраў. У Гайнаўцы 10 сакавіка выступіла 6 калектываў — са школ у Кленіках, № 2 і № 3 у Гайнаўцы, і аж тры калектывы са школы ў Махнатым.

У Бельску ў той жа дзень у раённым аглядзе выступілі чатыры калектывы — са школ у Пасынках, Храбалах і з Бельскай школы № 3 два калектывы — лялькавы і драматычны.

На жаль, не было сёлета ахвотных выступіць у раённых аглядах у Беластоку і ў Кляшчэлях. Там раённыя агляды не адбыліся.

На цэнтральны агляд вытыпавана было восем калектываў. Упершыню прыехаў дзіцячы беларускі тэатр з Гданьска. Дзеці прывезлі п'еску „Праведалі". Выступілі вельмі добра, адважна, з умельствам. Нават беларуская мова ў іх выкананні гучала ідэальна, як родная, свойская. Асабліва добрым акцёрствам выказаўся Тамаш Чурак, (узнагарода „Зоркі"), які граў галоўную ролю ў п'есе. Кіруе калектывам Анна Іванюк, а рэжысёрам-пастаноўшчыкам з'яўляецца Лена Глагоўская.



*П'еса-казка „Пшанічны каласок" у пастаноўцы тэатра са школы ў Махнатым.*

З новай пастаноўкай паказаўся гледачам школьны тэатр з Ласінкі. Кіруе ім настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк. Тэатр гэты ўжо з вялікім вопытам, нават вядомы ў нашым асяроддзі. Сёлета ласінкаўцы прывезлі на агляд экзатычную п'есу „Дзяўчынка Біз". Вельмі цікава зрабілі дэкарацыю: усходні багач у турэцкім адзенні сядзеў каля сваёй юрты, а яго жонка, вельмі скромная асоба, як гэта бывае на ўсходзе, ледзь паказвалася зрэдку. Дзеці добра справіліся з пастаўленай ім сцэнічнай задачай.

Настаўніца Валянціна Дзмітрук са школы № 3 у Гайнаўцы прывезла з дзецьмі казку „Валовая хатка". Апрача акцёрскага ўмення дзяцей, здзіўляла добрае выкананне звярыных масак: цікава выглядалі ўсе хатнія жывёлы, якія вырашылі пабудаваць сабе ў лесе хатку. Не магу не ўспомніць тут вельмі

(Працяг на стар. 10)

Ніна Галіноўская

### ВЯСНА

Зялёная траўка,  
Зялёнае лісце.  
На двор раніцою  
Спяшаюся выйсці.  
І сонца цяплом  
Саграває мяне.  
Я песні спяваю  
Зялёнай вясне.

### ЛАСТАЎКА-БУДАЎНІК

Што за дзіва, о-ё-ёй!  
Вырас кошык пад страхой.  
Гэта ластаўка-касатка  
Збудавала кошык-хатку.

Іван Гурбан

### ПЕРШЫЯ ЖАЎРУКІ

Зіма з вясною спрачаецца —  
Цярусяцца снягі...  
Ды зноў жаўрук спяшаецца  
У кут свой дарагі.

Яго прылёт абрадуе:  
Жаўрук —  
Наш лепшы госць.  
Над гонямі,  
Над хатамі  
Ляціць снягам на злосць.  
Вось-вось зямля адзенецца  
Ў вясновыя шаўкі —  
Зазвоняць, развяселяцца  
У небе жаўрукі.

Хоць дні яшчэ халодныя,  
Цяпла ім не стае, —  
Любоў да краю роднага  
Ім сілы дадае!

### ВЕТРЫК

Ветрык любіць падарожжы  
Ён без іх  
Пражыць не можа!  
Кожны раз,  
Адчуўшы сілы,  
Развінае ветрык крылы —  
І ў палёт:  
Яму ахвота  
Падсушыць бальшак, балота.

Леанід Шырын

### ЖАЎРУКОВА ПЕСНЯ

Узляцеў жаўрук  
Над полем —  
Добра бачыць  
Наваколле:  
Як з прычэпам  
Трактар  
Коціць новым  
Трактам,  
Як казіны статак  
Ходзіць  
Каля хатак,  
І ідуць авечкі ў двор.  
Бачыць бусла  
Між азёр...  
І пяе жаўрук, пяе  
Песні звонкія свае.  
Жаўруку заўсёды трэба  
Як вышэй падняцца ў неба.  
Як у неба  
Не ўзаўецца,  
Дык і песня  
Не пяецца.

# ДАСКАНАЛІЦЦА МАСТАЦКАЕ СЛОВА

(Працяг са стар. 9)

прыгожыя маскі зайчыкаў, лісы, ваўка, мядзведзя і іншых звяроў, з якімі гайнаўскія артысты не так даўно выступалі ў беларускім клубе ў Беластоку. У гэтым калектыве ёсць вельмі добры мастак.

Са школы № 3 у Бельску выступілі два тэатры — лялькавы і драматычны. Абодва тэатры вядзе настаўніца Ларыса Бурыла. Для дашкольнікаў цудоўнай была казачка пра казу-манюку. Аж дзіўна, як дзеці ў дзесяцьдванаццаць гадоў умеюць пераўвасабляцца то ў казу, то ў дзеда, бабу, ці ў іншыя постаці на сцэне. Адчуваецца тут праца з імі ад малодшых класаў.

У другой п'есе з гэтай жа школы („Казка пра сіротку Марысю") ужо вельмі сур'ёзна была абсталявана дэкарацыя. Былі тут вельмі прыгожыя гусі, якіх пасла сіротка, цудоўны гномік паявіўся на сцэне, не гаворачы ўжо аб маестатычнай каралеве. Асабліва мастацкімі акцёрскімі здольнасцямі вылучыўся на сцэне вельмі сімпатычны гномік у чырвоным каптурыку і з торбачкай за плячыма.

Са школы ў Махнатым дзеці штогод удзельнічаюць у нашых конкурсах. Сёлета яны прывезлі дзве пастаноўкі: „Пшанічны каласок" — вельмі мілую казачку для малодшых дзяцей (цудоўныя дэкарацыі, касцюмы і ігра гусака, індыка, куранятак), а таксама інсцэнізацыю вядомай беларускай жартоўнай песні „Баба Еўка, дзед Тамаш". Здавалася б, што там можна пагазаць з песні? Але дзецям разам з настаўніцамі Зінай Сельвясюк і Галенай Сельвясюк удалося зрабіць вельмі цікавую пастаноўку. Быў тут на сцэне і конь, і воз, і смешныя дзед з бабай, якія загуляўшы, праваронілі і каня, і воз. Як бачым, нават без сцэнічнага рэпертуару, уласнымі сіламі можна зрабіць цікавую, павучальную пастаноўку.

Усе школьныя тэатры на гэты раз аказаліся настолькі спелымі, сур'ёзнымі, асэнсаванымі, што журы вырашыла не вызначаць штучна нейкіх там месц ці чаргі. Усе тэатры, якія ўдзельнічалі ў гэтым годзе ў цэнтральным аглядзе, атрымалі ганаровыя дыпломы за выдатнае выступленне ў сёлетнім конкурсе, і, хоць невялікія, грашовыя ўзнагароды.

Усе калектывы моцна пастараліся, уклалі шмат працы, каб выступленні іх прайшлі на такім высокім узроўні.

Дзякуем дзецям, дзякуем настаўнікам за добрую працу тэатраў, за папулярызацыю ў такой цікавай форме нашага роднага беларускага слова і жадаем усім школам мець у сябе падобныя школьныя тэатры, мастацкія гурткі, каб мастацкае беларускае слова прыцягвала да сябе ўсіх маленькіх нашых суродзічаў.

Маю надзею, што беларускія школьныя тэатры з Бельска, Гайнаўкі, Махнатага, Ласінкі, Гданьска і іншых мясцовасцей панясуць свае мастацтва ў іншыя школы, дойдуць да ўсіх беларускіх дзяцей у нашым асяроддзі.

**Янiна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*На сцэну да гледачоў выйшлі акцёры лялькавага тэатра са школы № 3 у Бельску пасля пастаноўкі казкі „Каза-манюка".*

Уолт Дысней




**Частка 3**
**Пачатак у папярэдніх нумарах**

Калі воўк дунуў у трэці раз, дом разляцеўся ва ўсе бакі, як быццам на яго наляцеў ураган.

Воўк шчоўкнуў зубамі перад самым пятачком маленькага парасяці. Але Ніф-Ніф увільнуў, адскочыў і праз хвіліну быў ужо каля дзвярэй Нуф-Нуфа.

Ледзь паспелі браты зачыніцца, як пачулі голас ваўка:

— Ну, цяпер з'ем вас абодвух!

Ніф-Ніф і Нуф-Нуф спалохана паглядзелі адзін на аднаго. Але воўк вельмі стаміўся і вырашыў пайсці на хітрыкі.

— Я перадумаў! — голасна сказаў ён, так, каб яго пачулі браты. — Я не буду есці гэтых надобрых парасят! Я лепш пайду дадому!

— Ты чуў? — запытаў Ніф-Ніф брата. — Ён сказаў, што не будзе нас есці!





— Гэта вельмі добра, што воўк пайшоў дадому! — сказаў Нуф-Нуф і адразу перастаў дрыжэць.

І браты развесяліліся і заспявалі, як быццам нічога і не здарылася:

Нам не страшны шэры воўк,
Шэры воўк, шэры воўк.
Дзе ты ходзіш, дурны воўк,
Стары воўк, страшны воўк?

А воўк і не думаў нікуды ісці. Ён проста адыйшоўся трошкі ўбок і прытаіўся. Яму было вельмі смешна: як лоўка ён ашукаў двух неразумных парасят!

Ён пачакаў, калі парасяткі зусім супакоіліся, узяў авечую скуру, вялікі кошык і асцярожна падкраўся к дому. Каля дзвярэй ён сеў у кошык, накрыўся скурай і ціха пастукаў. Ніф-Ніф і Нуф-Нуф вельмі спалохаліся, калі пачулі стук.

—Хто там? — запыталі яны, і ў іх зноў затрэсліся хвосцікі.

— Гэта я-я-я, бедная маленькая авечка! — тонкім голасам прапішчаў воўк. — Пусціце мяне пераначаваць, я адбілася ад статка і вельмі стамілася!

— Пусціць? — запытаў брата добры Ніф-Ніф.

— Авечку можна пусціць, — згадзіўся Нуф-Нуф: ён таксама быў вельмі добрым парасятkам.

Але калі яны крыху адчынілі дзверы, яны раптам убачылі не авечку, а зубастую пашчу ваўка. Браты захлопнулі дзверы і з усёй сілы навалілі на іх, каб воўк не здолеў да іх уварвацца.

Воўк вельмі раззлаваўся, што яму не ўдалося ашукаць парасят. Ён скінуў з сябе авечую скуру, адпіхнуў кошык і зарычэў:

— Ну, пачакайце ж! Як я дуну, дык і ад гэтага дома нічога не астанецца!

І ён пачаў дуць. Дом крыху пакасіўся. Воўк дунуў у другі раз, потым трэці раз.

**Працяг будзе**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 222320, Мінская вобласць, Маладзечанскі раён, п/а Краснае, зав. Карбышэва, 5, кв. 5. Іры Есмановіч, кв. 9, Іры Рабілка. Дзяўчаткі вучацца ў сёмым класе.

* * *

БССР, 222380, Мінская вобласць, г. Мядзель, вул. 17-га верасня, 19, кв. 33. Паслед Святлане (14 гадоў).

* * *

Малдаўская ССР, 279200, г. Бельцы, ул. Реуцельская, 29. Заяц Варыка (7 клас).

## АДГАДАНКА



У гэтым дрэўцы схавана больш 15 трохвугольнікаў. А колькі ўдалося вам знайсці?



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. „Зорка"

